www.nv-online.info

№ 26 (3971)

3 красавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

# Плакальщики

Эта профессия известна с глубокой древности. Плакальщики – специально нанятые люди, задача которых голосить на похоронах. Поскольку в последние годы избирательные кампании в Беларуси каждый раз превращаются в похороны надежд на народовластие, на нормальное развитие страны, то у нас в этой старинной профессии появились настоящие виртуозы.

На политическом календаре – президентские выборы, и несменяемый секретарь Центризбиркома Николай Лозовик заголосил: «Разобщенность оппозиционных сил...»; «Нам бы хотелось, чтобы представители оппозиции более активно включились в подготовку к президентским выборам...»; «Выборы для избирателей тогда становятся интересными, когда озвучиваются разные точки зрения, когда в них участвуют различные политические силы...»

Лозовик страдает и в газетах, и на телеэкране, и на интернет-сайтах. Мол, как ответственно подходят к выборам провластные БРСМ и «Белая Русь» и как безответственно – оппозиция! Ну нельзя так, надо думать о людях!

Извелась вся и глава Центризбиркома Лидия Ермошина. Потому что нет интриги в выборах, нет к ним должного интереса, бездействуют оппозиционные партии и общественные объединения! «Такое сумеречное молчание необъяснимо и недальновидно», – в унисон с Лозовиком голосит Ермошина.

И чем ближе выборы – тем громче будут причитать. Потому что задача плакальщиков – привлечь к похоронам как можно больше внимания, создать массовку. В древности, отрабатывая свой номер, они часто доходили до экстаза и исцарапывали себя до крови, «страдая» по покойнику, с которым даже никогда не встречались.

У нас устраивают другие «аттракционы». Например, когда голосуют... умершие (такая история, документально зафиксированная, случилась в Смолевичском районе).

Или гонки с избирательной урной и голосование на скорость. (В Витебске на прошлых выборах нашлась комиссия, где голосование на дому умудрились провести со скоростью 2 человека в минуту.)

Интеллектуалам подкидывают на размышление ребусы. Избирателей на участке 100%, приняли участие в голосовании 104%. Как такое может быть? А ведь было...

Есть еще аттракцион телепортации: это когда независимый наблюдатель выходит на крылечко покурить, а за это время, как потом выясняется, мимо него, но невидимыми, проходили голосовать и голосовали толпы людей.

А есть почти эротический аттракцион разглядывания, пардон, задниц членов избирательных комиссий. Это когда они склоняются дружно над столами для подсчета голосов, закрывая бюллетени своими телами, а наблюдатели вынуждены издали разглядывать только эти самые места, обтянутые юбками и брюками.

Члены комиссий потом дружно голосят: «Мы показали наблюдателям все, что могли. Чем они недовольны?..» Вместе с ними голосят ЦИК, гостелеканалы, депутаты, разные «правильные аналитики». Про «двойные стандарты»; про оппозицию, которая «не на благо страны»; про народ, который «сделал правильный выбор»... Но это работа у них такая – голосить, зазывать на похороны. В нашем случае – на похороны демократии.

И надо ли в этом участвовать, каждый решает сам.

Напомню только одну историю, чтобы потом никто не говорил, что что-то не понимал про белорусские выборы, чего-то не знал, о чем-то не догадывался.

...Вечером 19 декабря 2010 года, в день президентских выборов, если вы помните, Лидия Ермошина спешно покинула студию, из которой велся прямой эфир на телеканале ОНТ. Те, кто смотрел эфир, помнят, что главу Центризбиркома выбил из колеи вопрос ведущего Сергея Дорофеева. Наивный вопрос. Крамольный вопрос.

– Лидия Михайловна, – спросил Дорофеев. – А почему вы не можете провести выборы так, чтобы никто не мог усомниться, что Александр Лукашенко – действительно победитель? (Цитирую по памяти, но смысл был именно таким.)

И глава ЦИК – всегда такая уверенная, знающая, опытная, категоричная и разговорчивая – просто не нашла, что ответить, практически бежала.

Конечно, потом Дорофеева отстранили от эфира. Ермошину, наоборот, поблагодарили и попросили в том же духе работать дальше. Но сколько бы теперь белорусские власти ни голосили, что Запад к нам несправедлив, что оппозиция – слаба и безответственна, что Александр Лукашенко «избран народом», вопрос-то остался. Снять его можно легко, приняв поправки в Избирательное законодательство, которые предлагает Европа, предлагает оппозиция. Это и сегодня можно сделать, срочно приняв соответствующий закон в Палате представителей и Совете Республики. Но ведь не делают. Голосят и ничего не делают.

Почему официальные власти Беларуси упорно отказываются провести честные выборы по демократическим, цивилизованным стандартам, результаты которых ни у кого не смогут вызывать сомнения?

Ответ на этот вопрос, по-моему, очевиден.

ДАСЛОЎНА

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

## «Мы будзем ваяваць супраць еўрапейцаў, амерыканцаў, расіян – каго заўгодна, калі яны паставяць перад сабой мэту заваяваць гэты кавалак зямлі, на якім павінны жыць беларусы»



Інфармацыйнае агенцтва БЕЛТА пачало публікаваць адказы Аляксандра Лукашэнкі на пытанні амерыканскага агенцтва «Блумберг». Адзін з адказаў закранаў незалежнасць Беларусі і адносіны нашай дзяржавы з Расіяй.

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што Беларусь не стане часткай Расіі і расійскае кіраўніцтва ніколі не ставіла такое пытанне. Паводле яго слоў, у Расіі шмат палітыкаў, якія думаюць па-імперску і хочуць бачыць Беларусь Паўночна-Заходнім краем. «На гэта мы даём канкрэтны адказ: мы не будзем Паўночна-Заходнім краем. Як і не будзем ніколі, як я гэта разумею, канфліктаваць з Расіяй!» – перадае БЕЛТА словы беларускага кіраўніка.

У той жа час ён адзначыў: «Сёння кіраўніцтва Расіі не ставіла наўпрост пытанне аб тым, што Беларусь павінна быць у складзе Расіі. Былі нейкія, ведаеце, намёкі ў мінулым, на што было вельмі жорстка адрэагавана з майго боку. Мы былі і ёсць суверэнная, незалежная дзяржава. Ёй і застанемся».

Нагадаем, што ў 2002 годзе Уладзімір Пуцін прапанаваў Беларусі ўвайсці ў склад Расіі або як суб'ект федэрацыі, або шасцю абласцямі.

Кіраўнік Беларусі лічыць, што Расія не будзе ваяваць супраць нашай дзяржавы: «Але я яшчэ раз падкрэсліваю: хто б ні прыйшоў да нас з мячом, той ад мяча і загіне. Мы будзем ваяваць супраць еўрапейцаў, амерыканцаў, расіян – каго заўгодна, калі яны паставяць перад сабой мэту заваяваць гэты кавалак зямлі, на якім павінны жыць беларусы».

ВІНШУЕМ!

## 6 красавіка славутаму беларусу Барысу Кіту споўніцца 105 гадоў



(Артыкул Канстанціна Касяка пра Барыса Кіта чытайце на 4-й стар.)

СТАЛІЦА

## Чыноўнікі пайшлі на саступкі

У супрацьстаянні жыхароў Мінска з гарадскімі чыноўнікамі вакол будаўніцтва бізнес-цэнтра на вуліцы Заслаўскай пастаўлена кропка. Пры сённяшняй сітуацыі гэта рэдкі выпадак, калі супалі інтарэсы чыноўнікаў і народа. Інвестару з брытанскім пашпартам, які прадстаўляў кампанію "Саўт Вэстэрн", у будаўніцтве адмоўлена.

Жарсці вакол гэтага аб'екта кіпяць даўно – з 2011 года. Замежны інвестар запланаваў будаўніцтва 16-павярховага бізнес-цэнтра разам з чатырохпавярховым банкам на месцы... невялічкага сквера на вуліцы Заслаўскай. Грамадскія слуханні праходзілі чатыры разы, і кожны раз людзі выказваліся супраць. І вось нарэшце дамову з інвестарам скасавалі.

На пятыя па ліку слуханні прыйшлі каля паўтары сотні жыхароў, прадстаўнікі гарадской і мясцовай адміністрацый, дэпутаты. Старшыня камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама **Павел Лучыновіч** першым адчуў на сабе абурэнне людзей. У яго нават вырвалі мікрафон, і жыхары пачалі выступаць адзін за адным. Бачна было, што ў людзей накіпела. Казалі пра ўшчыльненне, пра тое, што чыноўнікі заплюшчваюць вочы на праблему з паркоўкамі, пра горад, які на вачах губляе сваю індывідуальнасць і пацiху ператвараецца ў каменныя джунглі... Выступоўцы заклікалі пачуць іх і зрабіць жыццё ўтульным. Людзі сталага веку прасілі ўсталяваць лаўкі, якіх сёння амаль не знойдзеш ні ў адным мікраараёне (хіба толькі каля пад'ездаў). А людзям хочацца камунікаваць адно з адным, хочацца згуляць у шахматы з суседам у двары свайго дома за ўтульным столікам, хочацца, каб дзеці, якія жывуць у адным двары, былі хаця б знаёмы паміж сабой, а для гэтага павінны быць месцы, дзе яны могуць гуляць...

Убачыўшы такі настрой, прадстаўнікі інвестара палічылі за лепшае пакінуць залу. Чыноўнікі супакойвалі людзей, запэўнівалі, што яны самі супраць будаўніцтва. Вынеслі пытанне на галасаванне – і ўбачылі лес рук супраць гэтай будоўлі. Паабяцалі, што ў такім разе супраць людзей ніхто не пойдзе.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## ...Каб паміж усімі панаваў дух узаемнай любові і згоды

*(З Пастырскага паслання Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на Вялікдзень 2015 года)*



Глыбокапаважаныя браты і сёстры, усе людзі добрай волі!

Гэтым пасхальным воклічам сардэчна вітаю ўсіх вас і віншую з радасным і збаўчым, самым вялікім і найбольш важным хрысціянскім святам Уваскрасення Хрыста!

Мы скончылі Вялікі пост – час навяртання і паўстання з нашых грахоў. Сёння перажываем збаўчы і радасны дзень Пасхі, які нагадвае нам аб тым, што ў грахоўнай цемры засвяціла нязгаснае святло Уваскрасення. Гэтая праўда з'яўляецца Божым дарам чалавецтву, якога нельга ацаніць, і адначасова заданнем, каб ім жыць.

Неўзабаве пройдуць святы і ізноў распачнецца звычайнае жыццё. Ці ўвойдзем мы ў яго з праўдай Уваскрасення? Вось пытанне, якое сёння стаіць перад намі. Бо калі святы прыходзяць і адыходзяць, нічога не пакідаючы ў нашых сэрцах, то гэта знак таго, што наша вера з'яўляецца павярхоўнай і не закранае глыбіні сэрца, не вядзе да сапраўднай еднасці з Хрыстом і да нашага ўдасканалення.

Сама ж назва сённяшняга свята, "Уваскрасенне", нагадвае аб неабходнасці сталага ўваскрашэння з грабніцы грахоў і заклікае да змены жыцця на лепшае. "Будзьце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш нябесны" (Мц 5, 48), – заклікае нас Хрыстус. А імкнуцца да дасканаласці азначае не паддавацца спакусам злога духу і пастаянна яго перамагаць.

Нам патрэбны ўваскрослы Езус, каб бараніў нас перад цемрай бязвер'я і холадам абыякавасці, які ўсё больш і больш апаноўвае свет. Найбольш небяспечным ворагам хрысціянства з'яўляецца не ваяўнічы атэізм, бо там мы ведаем, хто нам супрацьстаіць, але абыякавыя сэрцы сучасных хрысціян без моцнай веры і хрысціянскага сведчання.

Нам патрэбны Езус у нашым грамадскім жыцці, дзе расце алкагалізм, наркаманія, карупцыя, усё больш праяўляецца эканамічны крызіс, паўстаюць розныя канфлікты, у тым ліку сацыяльная і палітычная напружанасць, працоўная міграцыя, якая негатыўна ўплывае на крызіс сям'і і страту веры, і г.д. Наша грамадства павінна быць насычана нязменнай праўдай Евангелля і Божай ласкай, каб на іх, як на непахісным падмурку, будаваць будучыню.

Нам патрэбны Уваскрослы Езус, каб дапамагаў разбудзіць пачуццё адказнасці за нашу Айчыну і салідарнасці паміж яе жыхарамі, каб паміж усімі панаваў дух узаемнай любові і згоды.

Жыхары Беларусі з радасцю і гонарам успрынялі той факт, што Мінск стаўся месцам перамоў і падпісання мірных пагадненняў па Украіне, якія з'яўляюцца новым этапам на шляху да вырашэння гэтага братазабойчага канфлікту ў цэнтры Еўропы, хаця гэты шлях нялёгкі і патрабуе яшчэ шмат намаганняў як з боку канфліктуючых бакоў, так і міжнародных арганізацый.

Беларусь, будуючы сваю тоеснасць на прынцыпах Евангелля, таксама павінна быць краінай міру, узаемапавагі і талерантнасці яе грамадзян, людзей розных веравызнанняў і нацыянальнасцяў, але ў той жа час сыноў і дачок адной Бацькаўшчыны.

Мы з радасцю перажылі нядаўні візіт Дзяржаўнага Сакратара Яго Святасці Папы Францішка кардынала П'етра Параліна, які ўмацаваў нашу веру і заклікаў да вернасці Хрысту ў барацьбе са злом, каб жыць свабодай дзяцей Божых. Пасланнік Папы заклікаў змагацца з новымі спакусамі нашага часу. Толькі тыя людзі, якія вераць у высокія каштоўнасці і змагаюцца, каб дасягнуць іх, сапраўды з'яўляюцца грамадзянамі, якія дапамагаюць сваёй краіне ісці наперад да лепшай будучыні.

...Уваскрослы Езус, адары нашу Айчыну, Беларусь, патрэбнымі ёй ласкамі, каб яна была краінай духоўнага ўваскрасення, якое з'яўляецца гарантыяй гарманічнага жыцця на зямлі паводле Божага плана і шчаслівай вечнасці. Жадаю ўсім вам, суайчыннікі і ўсе людзі добрай волі, шчаслівых, поўных Божай ласкі і Яго супакою святаў Уваскрасення Хрыста.

Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос!

## Хрыстос-Збавіцель



Пяе душа, настой святочны,
Я з храма Божага іду,
Дамоў спяшаю з усяночнай,
Нясу свянцоную ваду.

О, гэта раніца святая! –
Павесялела ўсё наўкол.
Мая сям'я мяне чакае,
Каб разам сесці нам за стол.

Зацеплім свечку і вадзіцы
Асвечанай усе глынём
І справім трапезу ў святліцы
Вясёлым велікодным днём.

Я з кожным велікодным днём
Бы нараджаюся нанова.
Прыходзіць радасць у мой дом
І поўніцца ён Божым словам.

Хрыстос-Збавіцель уваскрэс,
Такая светлая часіна!
Трава зазелянела спрэс,
І льецца мілы спеў шпачыны.

Цяплее зноў блакіт нябёс,
І песціць вочы жыта ўсходы.
Жыве ў маёй душы Хрыстос
І будзе жыць у ёй заўсёды.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ.**
*Вёска Камаі*
*Пастаўскага раёна.*

ВЕДАЙ НАШЫХ!

*На гэтым тыдні ў Мінску сустракалі ўладальніцу Вялікага хрустальнага глобуса біятланістку Дар'ю Домрачаву і ўсю нашу жаночую зборную.*

*Дар'я ДОМРАЧАВА:*

## «Мару выступіць на летняй Алімпіядзе ў сінхронным плаванні»



*"Ці пажартавалі над вамі ў Дзень смеху?»* – пацікавіліся журналісты ў спартсменак.

*«Над намі пажартавалі днём раней»,* – адказалі тыя.

Самалёт і на самай справе павінен быў прыляцець з Вены ў Мінск яшчэ 31 сакавіка ў 23.25, але з-за затрымкі рэйса Зальцбург–Вена беларуская каманда не паспела на авіярэйс Вена–Мінск, пасля чаго засталася начаваць у аўстрыйскай сталіцы.

Домрачаву з камандай сустракалі шыкоўна. Балельшчыкі з плакатамі, хлеб-соль, чырвоны дыванок у залу афіцыйных дэлегацый...

Пакуль самалёт не прызямліўся, імправізаваную прэс-канферэнцыю журналістам даў кіраўнік Беларускай федэрацыі біятлона **Валерый Вакульчык,** які, да слова, яшчэ і старшыня КДБ Беларусі. Цікаўлюся ў Валерыя Паўлавіча:

**– Чаму Домрачава апошнім часам трэніравалася з вядомым нарвежскім біятланістам Б'ёрндаленам? *(Пра іх раман, дарэчы, ужо пішуць даўно. – Аўт.)* Кажуць, што беларускія трэнеры былі гэтым незадаволены...**

– Я не сказаў бы, што нехта выказваў незадавальненне... Даша правяла некалькі збораў з нарвежцам, трэніравалася па асабістай праграме, якую рыхтавалі нашы трэнеры.

**– А як вы ставіцеся да таго, што ў СМІ актыўна абмяркоўваюцца адносіны паміж беларускай біятланісткай і Б'ёрндаленам?**

– Гэта асабістыя пытанні, не маю права іх абмяркоўваць.

**– Але сумесная работа беларускі і нарвежца ідзе на карысць нашай біятланістцы?**

– Там былі ўсяго адна-дзве трэніроўкі. Прынцыпова на выніку Дашы яны не паўплывалі.

**– Валерый Паўлавіч, Дар'я Домрачава – афіцэр КДБ?**

– Не, яна не ваеннаабавязаная. Толькі некаторыя біятланісты з'яўляюцца афіцэрамі КДБ. Той жа Аляксандр Сыман...

Спадар Вакульчык падчас гутаркі зрабіў шмат рэверансаў у бок Домрачавай і кампліментаў не пашкадаваў: параўнаў усмешку Дашы з усмешкай Юрыя Гагарына і назваў спартсменку "Каралевай біятлона".

А ў хуткім часе з'явілася і сама гераіня. У руках – Вялікі хрустальны глобус, на вуснах – "гагарынская" ўсмешка. І адразу – пытанне да Дашы:

**– Вы заваявалі ўсе галоўныя ўзнагароды. Якая спартыўная мэта засталася ў жыцці?**

– Самая бліжэйшая мэта – адправіцца на Алімпійскія гульні ў Бразілію. Мы з дзяўчатамі прынялі такое на першы погляд парадаксальнае рашэнне – заявіцца жаночай камандай на спаборніцтвы па сінхронным плаванні. Кожная з нас асобна летам паедзе на індывідуальны збор на мора, каб навучыцца добра плаваць. Дарэчы, у наступным сезоне Міжнародная федэрацыя біятлона таксама плануе ўнесці змены ў правілы. Акрамя хуткасці на лыжні і трапнасці ў стральбе спецыяльная брыгада суддзяў будзе яшчэ ацэньваць артыстызм каманды і эстэтызм знешняга выгляду. Таму на будучы сезон запрасілі ў зборную двух новых спецыялістаў: візажыста і стыліста.

Трэба сказаць, першакрасавіцкі жарт журналісты ацанілі, але пра мару ў Домрачавай ізноў дапытваліся.

– Мара, натуральна, ёсць, але гэта вельмі асабістае, – так і не раскрыла карты спартсменка.

Дашу сустракалі не толькі афіцыйныя асобы, журналісты і балельшчыкі, але і брат Мікіта з мамай Ларысай Аляксееўнай. Было бачна, што вядомай спартсменцы хацелася як мага хутчэй застацца сам-насам з блізкімі і адпачыць ад дакучлівай увагі грамадскасці. Праўда, у Мінск яна зазірнула ўсяго на дзень. Ужо 5 красавіка Дар'я Домрачава прыме ўдзел у "Гонцы чэмпіёнаў" у Цюмені...

**Алесь СІВЫ.**
**Фота аўтара.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
3 КРАСАВІКА 2015 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Стаіць МАЗ – і жыццё вакол заміраае...

Як паведамляла "Народная Воля", у гэтыя дні ў Мінску прыпынена работа некалькіх заводаў. Адміністрацыі прадпрыемстваў запэўніваюць рабочых, што праблемы часовыя і за вымушаныя адпачынкі яны атрымаюць па 2/3 заробку. Але што ж насамрэч хаваецца за прастоем, напрыклад, такога завода-гіганта, як, напрыклад, МАЗ?

Каб высветліць гэтае пытанне, карэспандэнт "Народнай Волі" зноў накіравалася да прахадной МАЗа, дзе яшчэ пару дзён таму размаўляла з рабочымі пасля змены.

...Час спыніўся. Ніхто не заходзіць і не выходзіць. Пуста не толькі каля ганка. На прылеглых вуліцах час ад часу трапляюць на вочы толькі навучэнцы каледжа, які рыхтуе кадры для аўтазавода. Сталых людзей – ні душы. Пры гэтым адчыненыя крамы і цырульні выглядаюць, мякка кажучы, дзіўна. (Дарэчы, на цырульні вісіць аб'ява, што яна некалькі дзён працуе ад 10.00 да 16.00.) Заходжу.

У пустой зале перад люстэркамі сядзяць жанчыны-цырульнікі. Убачыўшы мяне, усе разам ажывіліся. "*Прывітанне! А дзе ж кліенты?*" – пытаюся я. Даведаўшыся, што стрыгчыся і рабіць прычоску я не буду, жанчыны пачалі скардзіцца на сваё жыццё.

– *Нашымі кліентамі заўсёды былі завадчане,* – расказвае загадчыца цырульні Наталля Васілеўская. – *У асноўным гэта мужчыны, хаця і жанчыны, і студэнты таксама да нас заходзілі. Цяпер завод стаў, і мы разам з ім... План мы цяпер не выканаем. Страты – штодня. Што рабіць у такой сітуацыі, проста не ведаем. Ну, пакуль завод стаў на 10 дзён, а калі раптам увогуле стане?..*

Акурат падчас нашай размовы ў салон зайшоў наведвальнік. Такога сэрвісу ён, відаць, яшчэ не бачыў – да мужчыны кінуліся адразу трое майстроў.

– *Я, як і ўсе завадчане, да 7 красавіка ў адпачынку,* – расказвае Аляксандр. – *Толькі ў мяне няма ні лецішча, ні дома ў вёсцы, таму застаўся ў Мінску. Знайшоў невялічкую падпрацоўку – трэба ж неяк выжываць. За мінулы месяц я атрымаў два мільёны, а раней было шэсць-сем. Адчуваеце розніцу?.. Вось цяпер зайшоў у цырульню, бо стрыгчыся ж хоць раз на месяц трэба. Куды я яшчэ магу дазволіць сабе схадзіць? У кавярню?! У рэстаран?! У тэатр?! Можа, куды з'ездзіць у вандроўку?! Добра, што яшчэ на цырульню хапіла грошай...*

Побач з цырульняй крама па продажы трыкатажу "Марк Формэль". У гандлёвай зале – ніводнага чалавека. Толькі за прылаўкам сама загадчыца крамы **Ірына ГАРАНОВІЧ.** Яна расказвае:

– *Яшчэ некалькі месяцаў таму ў нас увесь час быў натоўп, асабліва пасля змены. Але з цягам часу пакупнікоў станавілася ўсё менш і менш, хаця мы прадаём танны і вельмі якасны трыкатаж. Вось толькі завод стаіць, людзей зусім няма. Мы ўжо і так кошты знізілі ледзь не да закупачных. У нас ёсць майкі па 30 тысяч, нават на іх няма пакупнікоў, бо ў людзей проста няма грошай. Набываюць толькі шкарпэткі, калготкі ды трусы. Не ведаю, што далей будзе.*

У прадуктовым універсаме ў 15 гадзін таксама людзей не густа. Налічыла трох чалавек. Адзін малады хлопец выбіраў чыпсы, мужчына разглядаў на паліцы каўбасы, і яшчэ адзін пайшоў да касы з пакетам кефіра і батонам.

Касірка патлумачыла, што да іх па харчы цяпер заходзяць толькі "хімікі" (тыя, хто па прыгаворы суда атрымаў пакаранне ў выглядзе абмежавання волі), інтэрнат якіх знаходзіцца побач з заводам, і студэнты каледжа. Загадчыца крамы паведаміла, што продажы знізіліся на 30%: калі раней выручка складала за дзень у сярэднім 88 мільёнаў, то напярэдадні нашай сустрэчы нагандлявалі толькі 63 мільёны.

Пакуль такую карціну можна назіраць толькі ў адным мікрараёне сталіцы, які завязаны на Мінскі аўтамабільны. А што будзе далей, калі прыпыняць работу іншыя буйнейшыя заводы?..

**Любоў ЛУНЁВА.**

СЛЫШАЛИ?

# Свободны!

Осужденный в 2013 году бывший заместитель министра внутренних дел Евгений Полудень уже освобожден. Об этом сообщил министр внутренних дел Беларуси Игорь Шуневич.

По его словам, Евгений Полудень освобожден по той причине, что отбыл весь срок наказания. То же касается и бывшего начальника Главного управления по борьбе с коррупцией и экономическими преступлениями МВД Виктора Ермакова.

Напомним, Евгений Полудень 25 марта 2013 года был приговорен к трем с половиной годам лишения свободы в колонии усиленного режима с конфискацией имущества. Он был признан виновным в совершении преступлений, предусмотренных ч.3 ст.424 (злоупотребление властью или служебными полномочиями) и ч.3 ст.426 (превышение власти или служебных полномочий лицом, занимающим ответственное положение) УК.

Виктор Ермаков – один из фигурантов «охотничьего дела» – 17 февраля 2010 года был приговорен к трем годам лишения свободы с отбыванием наказания в колонии общего режима. Он был признан виновным в совершении преступлений, предусмотренных ч.2 ст.426 (превышение власти или служебных полномочий, совершенное из корыстной или иной личной заинтересованности) УК.

АФІЦЫЙНА

# Пасланне ўжо пішацца

На веснавой сесіі Палаты прадстаўнікоў з Пасланнем народу і парламенту выступіць Аляксандр Лукашэнка. Пра гэта паведаміў спікер Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка. Праўда, дакладная дата выступлення не называецца.

Дарэчы, на веснавой сесіі дэпутаты павінны будуць прызначыць дату сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў. Дата разгляду гэтага закона таксама пакуль не абвешчана.

МАНІТОРЫНГ

# Пакаціўся з горкі рэйтынг...

Кандыдатам ад апазіцыі большасць беларусаў хоча бачыць вядомага, дасведчанага палітыка.

Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, што зарэгістраваны ў Вільнюсе, апублікаваў вынікі сакавіцкага апытання жыхароў Беларусі. Згодна з імі, давер да ўлады ў насельніцтва паніжаецца. Так, больш за 38% апытаных лічаць немагчымым значнае паляпшэнне жыцця насельніцтва пры цяперашнім кіраўніцтве і палітыцы, якую яно праводзіць.

Рэйтынг даверу персанальна да Аляксандра Лукашэнкі таксама працягвае зніжацца. У верасні 2014 года яму давяралі 53,5%, у снежні – 49,9%, у сакавіку 2015-га – 48,8%. (Не давяралі адпаведна 33,3%, 35,6%, 39,7%). Галасаваць за цяперашняга кіраўніка дзяржавы на прэзідэнцкіх выбарах у верасні 2014-га былі гатовы 45,2%, у снежні – 40%, у сакавіку 2015-га – 34,2%.

Прыхільнікамі цяперашняй улады назвалі сябе 37,3% рэспандэнтаў, 25,4% лічаць сябе апанентамі ўлады. А 36,7% сказалі, што «не думалі пра гэта і ім гэта абыякава».

Зрэшты, нават пры паніжэнні рэйтынгу Лукашэнка працягвае апярэджваць любых апазіцыйных лідараў. Электаральны рэйтынг (па адкрытым пытанні) Уладзіміра Някляева сёння складае 7,6% (у снежні быў 3,5%), Мікалая Статкевіча – 4,5% (быў 2,7%), Аляксандра Мілінкевіча – 1,6% (быў 2,8%), Анатоля Лябедзькі – 2,9% (быў 0,8%), Сяргея Калякіна – 1,6% (быў 0,7%). Рэйтынг Лукашэнкі па закрытым пытанні складае 36,9%, а Някляева – 9,4%.

На прэзідэнцкіх выбарах большасць хацела б бачыць кандыдатам ад апазіцыі дасведчанага, вядомага палітыка (44,5%). Удвая менш чакаюць новага чалавека, малавядомага палітыка (22,3%), і менш за ўсё хочуць бачыць жанчыну-палітыка (16,4%).

Такім чынам, незалежныя сацыёлагі абвергклі адзін з галоўных тэзісаў, які сёння агучваецца ў апазіцыйным асяродку: маўляў, каб перамагчы Аляксандра Лукашэнку, у якасці кандыдатаў у прэзідэнты патрэбны новыя твары і пажадана – жаночыя. Згодна з такім падыходам шэраг палітычных гульцоў дэмакратычнага кірунку ўжо агучваў магчымыя прозвішчы патэнцыяльных кандыдатак: Алена Анісім, Вольга Карач, Таццяна Караткевіч, Ірына Вештард... Але падобна на тое, што апазіцыя зноў абрала памылковую стратэгію.

**Віктар АЗАРАНКА.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Мілінкевіч сышоў з дыстанцыі

*Чуткі пацвердзіліся. Адзіны кандыдат ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2006 года Аляксандр Мілінкевіч гэтым разам у выбарчай кампаніі браць удзел не будзе. Савет руху "За Свабоду", які ўзначальвае Мілінкевіч, выступіў з афіцыйнай заявай.*

"Савет руху "За Свабоду" са шкадаваннем канстатуе, што нават глыбокі эканамічны крызіс у Беларусі і пагроза для суверэнітэту краіны з боку Расіі не спрыяніліся да кансалідацыі дэмакратычных сіл Беларусі ў імя незалежнасці, дэмакратыі, рынкавай эканомікі і еўрапейскага выбару.

На вялікі жаль, недахоп адказнасці і дамоваздольнасці да сённяшняга дня не дазволілі прыняць працэдуру вызначэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сіл.

Лічым, што паход на выбары асобнымі калонамі дээарыентуе прыхільнікаў перамен і паглыбіць апатыю ў грамадстве. Імітацыя ўдзелу ў выбарчым палітычным працэсе з загадзя прадказальным фіналам можа адштурхнуць людзей ад дэмакратычных сіл.

Ад моманту стварэння рух "За Свабоду" ставіў за мэту пашырэнне патрыятычных і праеўрапейскіх настрояў, фарміраванне крытычнай масы грамадзян, якія могуць рэальна адстаяць незалежнасць і дэмакратычны выбар Беларусі. Мы і надалей будзем дзейнічаць дзеля яе дасягнення, не абмяжоўваючыся рамкамі выбарчай кампаніі.

Рух "За Свабоду" заяўляе, што ўстрымліваецца ад вылучэння свайго кандыдата і падтрымкі іншых кандыдатаў падчас прэзідэнцкай кампаніі 2015 года. Арганізацыя сканцэнтруецца на распрацоўцы прапаноў эканамічных рэформ у рамках "Народнай праграмы", ініцыятыве дзеля мірных перамен "Народны рэферэндум", а таксама на кампаніях па назіранні за ходам выбараў і за вызваленне палітычных вязняў".

ТЫМ ЧАСАМ

# Вольга Карач – таксама

На думку кіраўніцы кампаніі "Наш дом", выбары стануць толькі "тэхнічным момантам" і сур'ёзна да іх людзі ставіцца не будуць.

У заяве падкрэсліваецца, што апошнія два гады былі «часам актыўных і складаных дыскусій з нагоды таго, ці павінна кампанія заставацца непалітычнай арганізацыяй, якая займаецца грамадзянскімі ініцыятывамі альбо павінна ўсё-такі рэарганізоўвацца ў палітычную арганізацыю і актыўна ўдзельнічаць у выбарах-2015».

«Для «Нашага дома» важна гуляць па сваіх правілах і самім фарміраваць уласны сцэнарый, а не ўдзельнічаць у чужым, – гаворыцца ў заяве. – На сення мы адчуваем, што, актыўна ўдзельнічаючы ў выбарах, мы гуляем па чужым сцэнарыі і не маем дастаткова інструментаў, каб выкарыстоўваць наш уласны сцэнарый развіцця падзей».

Нагадаем, што Вольга Карач была адной з першых жанчын-палітыкаў, якая заявіла пра тое, што не выключае свайго ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах 2015 года ў якасці кандыдата.

ДЗІКУНСТВА

# Палягчэла?..

Жанчына, якая выкінула трохгадовага сына з 12-га паверха, зрабіла гэта свядома.

Завершана расследаванне крымінальнай справы аб забойстве дзіцяці на вуліцы Адзінцова ў Мінску. Пра гэта паведаміў афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінску **Аляксандр Герасімаў.**

Жудаснае здарэнне адбылося 29 студзеня гэтага года. 34-гадовая мінчанка выкінула з 12-га паверха свайго трохгадовага сына. «Яна мела намер здзейсніць суіцыд разам з сынам, аднак пасля падзення дзіцяці не завяршыла задуманае», – адзначылі ў Следчым камітэце.

На факце забойства хлопчыка была ўзбуджана крымінальная справа, а маці ўзялі пад варту. Аднак ці ў сваім розуме была жанчына, якая здолела здзейсніць такое са сваім дзіцем, павінна была вызначыць псіхалага-псіхіятрычная экспертыза.

Следства высветліла, што жанчына вырашыла скончыць жыццё самагубствам з-за неўладкаванага асабістага жыцця і цяжкага матэрыяльнага становішча, у тым ліку і з-за даўгоў. Палічыўшы, што сын без яе будзе нікому не патрэбны, жанчына вырашыла скончыць жыццё самагубствам разам з дзіцем.

«Згодна з заключэннем псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, падазроная не пакутуе на псіхічныя расстройствы (захворванні) і ў перыяд часу, які адносіцца да інкрымінаваных ёй дзеянняў, у часовым хваравітым стане псіхікі ці стане афекту не знаходзілася. Яна магла ўсведамляць фактычны характар, грамадскую небяспеку, значэнне сваіх дзеянняў і кіраваць імі», – распавялі следчыя.

У выніку жанчыне прад'яўлена абвінавачанне ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага п.2 ч.2 арт.139 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь ("Забойства заведама малалетняга, які знаходзіцца ў бездапаможным стане"). Санкцыі па гэтым артыкуле прадугледжваюць пазбаўленне волі на тэрмін ад 8 да 25 гадоў або нават пажыццёвае зняволенне. Крымінальная справа ўжо накіравана пракурору для накіравання ў суд.

КОМАНДИРОВКА

# Отшельник

*Восемь лет назад Валерий Богданов уехал из Новополоцка в глухую деревню в Ушачском районе. Устав от городской жизни, одинокий мужчина поселился в доме, который остался ему от родственников, и устроился работать электромонтером в местное КУСХП «Кубличи». Сегодня в деревне Астаповщина Валерий Богданов – единственный житель. «Народная Воля» навестила отшельника.*



Мой приезд для Валерия Богданова стал большим сюрпризом. Предупредить его не было возможности: у Богданова нет телефона, а других средств связи в деревне нет. Изучив мое редакционное удостоверение вдоль и поперек, электромонтер объяснил причину своего удивления.

– *Бывает же такое совпадение!* – произнес Богданов. – *А я как раз пишу письмо Иосифу Середичу о том, как мы здесь живем...*

С этого и начался наш разговор.

## Прошлая жизнь

О себе Валерий Богданов рассказывает неохотно. Говорит, что личность он непримечательная и ничем особенным от других не отличается. Вспоминать городскую жизнь тоже не любит. Родом Валерий Анатольевич из Одессы. В Украине прожил около 20 лет. Пока служил в армии, мать, две сестры и брат оказались в Беларуси. После демобилизации приехал к родственникам и остался здесь навсегда.

У Валерия Богданова неоконченное высшее образование. Учился в Московском педагогическом институте, но был отчислен с третьего курса. За свою жизнь сменил несколько профессий: был директором сельского клуба, работал на заводе «Полимир», а теперь трудится электриком в сельхозпредприятии. До выхода на пенсию ему осталось чуть больше года.

В Новополоцке Валерий Богданов работал оформителем в художественной мастерской. Сам картин не писал, но с городскими художниками был хорошо знаком. Общение с творческими людьми и стало одной из причин отъезда в деревню.

– *Моими друзьями были художники. Хорошие интеллигентные ребята, но, как часто бывает с людьми творческого склада, любили выпить,* – рассказывает Богданов. – *Рабочий день часто начинался с выпивки и заканчивался тем же.*

Нередко участником таких посиделок был и сам Богданов. Менять работу или окружение мужчина считал бессмысленным делом, а продолжать дальше «богемную» жизнь не хотел.

В Новополоцке Валерий жил в четырехкомнатной квартире с матерью. После ее смерти квартиру разделили между наследниками. Валере досталось всего лишь пять тысяч долларов. Выяснять отношения с родственниками из-за денег он не стал. За полученные деньги купить жилье в городе было нереально, да и оставаться в Новополоцке не хотелось. Вот он и уехал в Астаповщину. С братом и сестрами Валерий давно не общается. Личную жизнь тоже устроить не получилось. С женой развелся еще в молодости, а единственного сына видел всего пару раз и то еще в младенчестве.

– *С самого раннего детства он другого человека, хорошего человека, называет папой,* – уточняет Валерий. – *Сына и жену я не видел очень много лет. Жили они в Украине, а где сейчас, не знаю. Сын взрослый, у него уже, наверное, своя семья...*

## Один на всю деревню

В Астаповщину каждые вторник и пятницу днем приезжает автолавка, в деревню привозят газ, ходит почтальон, а зимой даже чистят снег. Но автолавка всегда приезжает днем, когда Валерий на работе. Поэтому за продуктами приходится топать в соседнюю деревню Кубличи, которая находится в трех километрах от его дома.

На деньги, полученные от продажи квартиры в Новополоцке, Валерий подремонтировал старую хату, в которой давно никто не жил. В доме у одинокого мужчины есть радиоприемник и телевизор. Никакого хозяйства Богданов не держит.

– *Когда живешь с семьей, тогда, конечно, и огород, и скотину держать надо,* – говорит Богданов, – *а мне одному много не нужно.*

Тоски по городу у деревенского жителя нет. Вариант переезда обратно в Новополоцк мужчина даже не рассматривает. Старость планирует встретить в Астаповщине. По словам Валерия, жить в деревенском доме около леса ему гораздо приятнее, чем в городе. Забот по дому у хозяина немного: воды принести, дров наколоть. Летом участок обкосить, чтобы не зарастал.

В еде Богданов неприхотлив. Молоко, картошка, яйца, сало – обычное деревенское меню.

– *Что-то в магазине покупаю, что-то – у местных жителей. Питаюсь тем, что Бог пошлет,* – шутит Валерий.

Аскетичный образ жизни вполне удовлетворяет Богданова. Свое одиночество электромонтер воспринимает спокойно. С годами обиды на жизнь не затаил.

– *Жизнь получилась такой, какой получилась,* – откровенничает он. – *И если что-то сложилось не так – виноват только я один. Значит, недостаточно хотел что-то изменить.*

Одним из плюсов своего переезда Валерий называет трезвую жизнь. По словам электромонтера, последние годы выпивает он крайне редко и очень мало.

## Письмо в редакцию

Письмо главному редактору «Народной Воли» Богданов готовил больше месяца. Признается, что несколько раз переписывал – получалось очень эмоционально.

– *Зарплату получаем с большими опозданиями и не полностью,* – рассказывает электромонтер о насущных проблемах. – *Я не хочу, чтобы мои слова восприняли как плач или жалобу, но и молчать больше не могу. Попробуй проживи на 300 тысяч! Со мной за январь-февраль до конца еще не рассчитались.*

Богданов говорит, что уже и не помнит, когда получал деньги вовремя. Такая же ситуация и у остальных работников. Задержка по зарплате у доярок, трактористов, механизаторов составляет несколько месяцев. Всего в КУСХП «Кубличи» трудится 74 человека.

Чтобы работники хозяйства могли хоть как-то сводить концы с концами, им предложили отовариваться продуктами в счет зарплаты. Официально это дело сугубо добровольное, т.е. заставить человека набрать еды на 30 процентов от заработка никто не может. Так ли это, уточняю у деревенского жителя.

– *Перед Новым годом привезли кур с витебской птицефабрики, до этого тушенку завозили,* – рассказывает Валерий. – *Недавно приперли Бог знает сколько муки, и самое интересное, что сразу же распределили, кому и сколько надо взять. Ну вот зачем мне одному 50 килограммов муки?*

Брать такое количество муки Богданов отказался. Говорит, что готов закупаться на 30 процентов от зарплаты при условии, что продукты будут свежими.

– *Я слышал по телевизору, что товар, который выдается в счет зарплаты, должен быть незалежалым,* – объясняет электрик. – *Руководство говорит, что нет возможности привозить такой товар. Шевелиться нужно, чтобы она появилась!*

Руководство сложившуюся ситуацию объясняет тяжелым материальным положением. Обеспечить работой начальство тоже может не всегда. По словам Богданова, люди вынуждены работать не по специальности и, как следствие, получать копейки.

Валерий рассказывает, как проходит трудовой день.








– *Приходит тракторист утром на работу. Солярки, чтобы залить в трактор и выехать, – нет. Приходится собирать мусор.*

Убирать территорию однажды предложили и Богданову, однако он объяснил начальству, что ходить с метлой не будет, так как электрик по профессии.

Чтобы убедиться, действительно ли ситуация такова, корреспондент «Народной Воли» поговорил с другими работниками.

Зайдя на территорию хозяйства в рабочее время, я увидел стоящих вокруг костра мужчин и женщин. По словам работников, в хозяйстве нет даже света, а значит, нет и работы.

– *Вот так и работаем – палим костры,* – говорит один из трактористов. – *Солярки и запчастей нет. На днях еще узнали новые расценки за рабочий день – около 12 тысяч получается, так вообще желание работать пропало.*

В один голос коллектив хозяйства жалуется на задержки по зарплате, низкие расценки и на то, что устали терпеть. Однако называть свои фамилии для публикации никто из рабочих, кроме Богданова, не захотел.

«Народная Воля» попросила прокомментировать ситуацию директора КУСХП «Кубличи» **Алексея Хмелевского**.

– *С 1 января 2015 года вступил в силу декрет президента №5 «Об усилении требований к руководящим кадрам и работникам организаций»,* – объясняет Алексей Сергеевич. – *Люди привыкли к тому, что раньше шло авансирование. Деньги были. Сейчас ситуация изменилась. Денег не хватает даже на зарплату. Мне досталось хозяйство с большими долгами...*

В должности директора Алексей Хмелевский полтора года. Погасить долги хозяйство на сегодняшний день не в состоянии. Задолженностью перед нефтебазой объясняется и проблема с топливом: в кредит его уже не дают.

– *Бывает, что человеку нет работы по специальности,* – говорит директор. – *Я могу предложить другую работу. Сотрудник может отказаться ее выполнять, аргументируя тем, что это не его профессия. В таком случае документально оформляется отказ от выполнения производственной работы. За то, что человек пришел и просидел целый день без дела, никто ему платить не будет.*

Есть в Кубличах и еще одна проблема, которая не дает покоя Валерию Богданову. Сегодня в хозяйстве осталась одна ферма, пригодная для содержания скота. Всего пару лет назад их было три.

– *За 2014 год две фермы перестали работать,* – рассказывает Богданов. – *Начали ремонтировать здания на ферме в селе Заболотье. Поменяли шифер, частично заменили стропила... Через год один угол стены рухнул и упала вся крыша. Хорошо, что никто не пострадал. Ночью произошло все...*

Стадо коров разбросали по двум оставшимся фермам, одну из которых в скором времени признали аварийной. В итоге часть крупного рогатого скота пришлось перевести на содержание в соседнее хозяйство. Всего в КУСХП «Кубличи» насчитывается 334 дойные коровы. По словам директора хозяйства, в перспективе планируется начать работы по восстановлению коровников своими силами.

Провожая меня в город, Валерий еще долго рассказывал о трудностях в Кубличах. По его мнению, такое положение людей просто унизительно. Интересуюсь у электрика, как же все-таки люди выживают без зарплат?

– *Я, например, живу благодаря пенсионерам,* – говорит Валерий. – *Беру в долг, когда какие-то копейки выплатят – возвращаю. Крутятся как могут люди. Кому-то родственники помогают, кто-то за счет своего огорода выкручивается...*

Рассказал Богданов, почему хотел написать в газету. Надеялся получить ответ на один вопрос:

– *Мы еще живем в Беларуси, которая якобы процветает, или у нас здесь своя власть, которая за строительством коровников уследить не может?*

**«Народная Воля» решила поинтересоваться, знает ли местная власть о ситуации в КУСХП «Кубличи».**

*Ирина ЛАСТОВКА,*
**председатель Кубличского сельского исполнительного комитета:**

## «Кто хочет работать – тот зарабатывает»

*– Иногда зарплату задерживают,* – подтвердила чиновница. – *Финансово положение нестабильное. К посевной готовимся, думаю, ее начнут вовремя. Трудности есть. Это жизнь.*

Перезвонив на следующий день, Ирина Викторовна уже более подробно рассказала о положении дел в сельсовете, который находится в ее подчинении.

*– Вы стараетесь найти только один негатив. Почему бы вам не обратить внимание на положительные моменты?*

*На район приходит 50 тракторов, часть из которых поступит и в наше хозяйство. В полном объеме выделяются деньги на топливо для посевной, на запчасти, на покупку удобрений.*

*Скажу словами директора одного из хозяйств: «Кто хочет работать – тот заработает хорошие деньги, где бы он ни работал». Все зависит от человека. В моем сельсовете выполняются социальные стандарты на освещение населенных пунктов, ремонт дорог...*

*Я вам приведу цифры: Кубличскому сельсовету оказана государственная адресная социальная ежемесячная и единовременная помощь 16 семьям на сумму 83 млн рублей, двум инвалидам – на сумму 14 млн, на покупку дров 18 гражданам на сумму 5 млн, на покупку лекарств, ремонт печей, электропроводок... Представляете, какие это деньги – и только одному сельсовету?!*

*Нужно благодарить президента за мир и спокойствие. Я не боюсь сегодня выйти ночью на улицу. Мы даже дома на ночь не закрываем.*

***

*Как говорится, без комментариев.*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**
**Фото автора.**

*Ушачский район.*



Народная Воля http://www.nv-online.info
3 КРАСАВІКА 2015 г.

ВЕКАПОМНАЕ

# Разгон

***У ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія адстойвалі дэмакратыю, амапаўцы гвалтоўна выкінулі з Авальнай залы***

*11 красавіка 1995 года 19 дэпутатаў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце прама ў Авальнай зале абвясцілі галадоўку пратэсту супраць ініцыяванага Аляксандрам Лукашэнкам рэферэндуму аб скасаванні бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня" як дзяржаўных сімвалаў, ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і наданні прэзідэнту права распускаць парламент.*

*У ноч з 11 на 12 красавіка на падставе таго, што быццам паступіла паведамленне аб мініраванні будынка парламента, у залу пасяджэнняў быў уведзены АМАП і супрацоўнікі Службы бяспекі кіраўніка дзяржавы. Яны жорстка збілі пратэстуючых дэпутатаў і гвалтоўна выкінулі іх з будынка парламента.*

*Вінаватых у збіцці дэпутатаў праваахоўныя органы не назвалі і да гэтага часу. Генпракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па заяве групы дэпутатаў аб збіцці іх супрацоўнікамі спецслужбаў, але справа была прыпынена. На наступны дзень пасля здарэння Аляксандр Лукашэнка абяцаў паказаць па тэлебачанні відэазапіс гэтага разгону: маўляў, не ўсё там было менавіта так, як расказваюць дэпутаты. Але мінула ўжо 20 гадоў, а грамадскасці гэты запіс так і не паказалі. Дарэчы, не бачыў відэастужкі нават следчы, які займаўся расследаваннем гэтага інцыдэнту.*

*"Пасля таго як у парламент увялі войскі, узброеныя сілы, ён перастаў быць парламентам, – не раз падкрэсліваў тагачасны дэпутат* ***Лявон Дзейка.*** *– Бо гэты орган у любой краіне абсалютна недатыкальны для любой іншай структуры. Наступствы гэтага незаконнага рэферэндуму мы бачым ужо на працягу амаль дваццаці гадоў. Ідзе татальнае знішчэнне беларускай мовы. Улада і тая, і цяперашняя, а па сутнасці адна і тая ж, у шэрагу пытанняў – грамадскіх, культурных, сацыяльных – пакідае пасля сябе проста папялішча».*

***Усё тое, што адбылося ў ноч з 11 да 12 красавіка ў Авальнай зале, даўно падрабязна апісана. "Народная Воля" пагартала ўспаміны дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія бралі ўдзел у галадоўцы, а таксама задала некалькі пытанняў следчаму, які вёў расследаванне адпаведнай крымінальнай справы, і былому начальніку Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Міхаілу Цесаўцу, які кіраваў разгонам дэпутатаў.***



ЯК ГЭТА БЫЛО...

*Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ:*

## "Мяне, як бервяно, укінулі ў міліцэйскі ўазік з металічнай падлогай"

"...Па абранні Лукашэнкі прэзідэнтам краіны пачаўся наступ на беларушчыну, на галоўныя прыкметы беларускай дзяржаўнасці, перадусім на мову і дзяржаўныя сімвалы, – *узгадвае дэпутат, успаміны якога друкаваў часопіс Arche.* – Мы спрабавалі рабіць, што маглі, каб спыніць гэтую згубную палітыку, але бачылі, што нашы намаганні марныя.

Калі на сесіі Вярхоўнага Савета ў красавіку 1995 г. Лукашэнка ўнёс прапанову аб рэферэндуме, мы адразу ўбачылі ў ім спробу знішчыць асновы нашай дзяржаўнасці: мову, дзяржаўныя сімвалы краіны.

Пазьняк 11 красавіка з трыбуны ВС сказаў, што прэзідэнт навязвае нашаму грамадству антыканстытуцыйны рэферэндум, што мы вычарпалі ўсе магчымасці і ў нас няма іншага выйсця, апроч галадоўкі, і мы аб'яўляем яе тут, у гэты час, у гэтай зале. Ён пайшоў і сеў на прыступку каля трыбуны. Мы далучыліся да яго. Усё адбылося спантанна. Нікога не трэба было пераконваць у слушнасці такога кроку. Мы былі гатовы на ўсё, каб не дапусціць ганебнага рэферэндуму.

Зала ВС сустрэла нашу акцыю доўгім маўчаннем. Прысутныя дэпутаты не разумелі, як гэта іх калегі будуць галадаць проста ў зале пасяджэнняў. Яны спрабавалі працягваць працу, як быццам бы нічога не здарылася. Я не сумняваюся, што наш учынак уразіў прысутных дэпутатаў настолькі, што яны завалілі ўсе прапановы Лукашэнкі, нягледзячы на ўсе яго намаганні. У той дзень нам удалося сарваць прыняцце рашэння пра рэферэндум.

Мы бачылі, што пачалі сваю акцыю не марна, бо першы ж дзень даў свой плён. І тады Лукашэнка і яго хаўруснікі, якія ўсё адсочвалі, зразумелі, што, пакуль у сценах Вярхоўнага Савета будзе доўжыцца галадоўка, у іх нічога не атрымаецца. Таму і вырашылі любым шляхам выкінуць галадоўшчыкаў з парламента.

Пасля 18-й гадзіны да нас пачалі прыходзіць усякія парламенцёры менавіта з аховы прэзідэнта. Быў кіраўнік аховы са стрыжанымі хлопцамі ў скураных куртках. Яны спрабавалі нам нешта давесці, казалі, што зала замініраваная і яе трэба пакінуць.

Потым, гадзін у 12 ночы, заходзілі па-вайсковаму апранутыя сапёры шукаць міну. Яны недзе за паўгадзіны праверылі залу, але нічога не знайшлі. Потым іншыя пасланцы пераконвалі нас, што ўжо позна і залу трэба вызваліць і зачыніць. Мы адказалі, што мы не пабочныя асобы, а народныя дэпутаты, што мы праводзім галадоўку на працоўным месцы. Яны пагражалі вывесці нас гвалтам і нават спрабавалі цягнуць некаторых за рукаў. Мы адказвалі: не маеце права, не забывайце, што за гэта вы будзеце несці не проста дысцыплінарную, а крымінальную адказнасць. І так цягнулася гадзіны да 2-й ночы.

Хіліла ў сон, і каля 2-й гадзіны мы задрамалі, хто дзе ўладкаваўся: проста на падлозе ці ў крэслах. Дзяжурства мы не прызначалі. Раптам скрозь сон я пачуў крык Голубева: «Уставайце, уставайце!» Мы хуценька паўскоквалі са сваіх месцаў. Загарэлася святло, і я ўбачыў, што па ўсёй Авальнай зале і наверсе шчыльна адзін да аднаго стаяць узброеныя вайскоўцы. Відаць, яны хацелі пахапаць нас соннымі. Хтосьці з іх (здаецца, Каралёў) нас яшчэ раз папярэдзіў, каб мы пакінулі залу, бо інакш яны пусцяць у ход сілу. Мы паспелі ім адказаць: добраахвотна не сыдзем. Мы паселі ў крэслы на месцы прэзідыума і ўчапіліся за рукі.

У гэты момант на кожнага з нас накінулася па 3–4 «гарылы» ў чорных масках са шчылінамі для вачэй. Яны былі без зброі, але, відаць, добра натрэніраваныя. Падскочыўшы да мяне, двое адразу закруцілі мне рукі, а адзін пачаў біць па спіне ззаду. Мяне вырвалі з месца і павалаклі тварам уніз. Яны моцна скруцілі мне рукі і білі. Я паспеў убачыць валтузню вакол Пазьняка – яму ціснулі на вочы. Я чуў, як яны раўлі. З аднаго з іх І.Гермянчук, цяпер нябожчык, паспеў сарваць маску. Нападнік затуліў твар, кінуў ахвяру.

Відэакамеры я добра бачыў. Было іх дзве ці тры, а адна наверсе, здаецца, стацыянарная. Пачалі яны здымаць гадзіны з 18-й, як толькі закончылася пасяджэнне ВС, і здымалі беспярапынна ўвесь вечар да той пары, пакуль мы не выключылі святло і не палеглі адпачываць.

Нападнікі выводзілі мяне ў дзверы направа, у вузкі двор. Я заўважыў, што ўздоўж шчыльна стаялі ўзброеныя міліцыянты. Я кажу ім: «Хлопцы, чаму вы моўчкі глядзіце?» Яны не рэагавалі. Затым мяне, як бервяно, укінулі ў міліцэйскі ўазік з металічнай падлогай. Я не разбіў галаву толькі таму, што паспеў прыкрыць яе рукамі. Доўга нас па Мінску не вазілі – выкінулі недзе ў раёне вул. Казлова. Праз некалькі гадзін мы сабраліся ў гасцініцы «Кастрычніцкая». Некалькі чалавек пайшлі ў пракуратуру. Мы напісалі калектыўную заяву, на падставе якой была распачата крымінальная справа. Следчы **Язэп Бролішс** асабіста дапытаў кожнага з нас, размаўляў падрабязна і доўга, затым накіраваў на медыцынскую экспертызу. У мяне да таго часу апухлі абедзве лапаткі – яны балелі яшчэ тыдні два. У Пазьняка твар быў у сіняках. У А.Шута па дыяганалі на спіне – след дубінкі. У А.Трусава – сінякі на нагах.

Назаўтра нас не пускалі на пасяджэнне Вярхоўнага Савета міліцыянты, хоць я паказваў ім дэпутацкае пасведчанне. Не пускалі нават **Васіля Шаладонава** – відаць, памыліліся. Памятаю, што І.Гермянчук, тады рэдактар «Свабоды», змясціў у газеце фота, як В.Шаладонава не пускалі ў будынак ВС услед за мной. Пад здымкам подпіс: «А гэтага за што?» Праўда, хвілін праз 10 ахоўнікі атрымалі нейкую каманду і прапусцілі нас. Мы прыйшлі ў залу са спазненнем, нягоденыя, змораныя і збітыя. Дэпутат Шут паказваў проста на пасяджэнні ВС сваю спіну з пісягамі ад пабояў. А з залы гучала: «Мала далі!»

Жаданне працягваць галадоўку ўжо не было: калі нас выкінулі з залы ВС, дык і зноў выкінуць. Аднак мы разлічвалі на грамадскі рэзананс, на тое, што крымінальную справу давядуць да канца. Лукашэнка потым выступаў: маўляў, я вам пакажу, як яны там «галадалі» і чым займаліся. А няхай бы паказаў. Я не сумняваюся, што адпаведныя відэазапісы засталіся. Дарэчы, хтосьці з нашых дэпутатаў бачыў у двары, калі мы клаліся спаць у зале ВС, прэзідэнцкі «мерседэс».

Як толькі Лукашэнка стаў у 1994 г. прэзідэнтам, ён адразу павёў наступленне на Вярхоўны Савет, каб умацаваць асабістую ўладу. Ён не хацеў дзяліцца ні з кім сваімі паўнамоцтвамі. Ён разумеў, што самастойны парламент створыць такія законы, якія абмяжуюць уладу прэзідэнта. Са збіцця дэпутатаў у Беларусі пачала замацоўвацца дыктатура А.Лукашэнкі. Сёння відавочна, што ў нашай краіне не дзейнічае прынцып падзелу ўлады, бо парламент пазбаўлены рэальных паўнамоцтваў, няма незалежных судоў..."

*Валянцін ГОЛУБЕЎ:*

## "Яны нас проста хапалі, білі і прымусам выцягвалі з залы"

"...Было трывожна. Я прыслухаўся і тут у нейкі момант проста фізічна адчуў, як закалыхалася паветра – гэтак бывае, калі недзе побач у памяшканні ідзе вялікая маса людзей. Падобнае адчуванне ведае кожны, хто служыў у войску. А потым я пачуў гук удару аб дула аўтамата АКМ ці карабіна: «бзынь». Як і шмат хто з вайскоўцаў, гэты гук я не зблытаю ні з якім іншым. Зрабілася страшнавата. Я падняўся і рушыў да цэнтральных дзвярэй залы. Як толькі я ўзяўся за ручку, звонку мне нібы дапамаглі. Дзверы расчыніліся, і ў ярка асветленым фае я ўбачыў мноства вайскоўцаў: можа, некалькі соцень. Адразу кінуліся ў вочы іх пластмасавыя маскі ці шлемы, нібы ў касманаўтаў. Яны стаялі гурткамі і размаўлялі. Некалькі чалавек былі з ранцамі і ў супрацьгазавых масках. У гэты момант той салдат, які дапамог мне адчыняць дзверы, ткнуў у мяне ручным кулямётам. Перапужаны, я крыкнуў: «Кулямётчыкі!» – і адскочыў ад дзвярэй. Тады ззаду за мной у зале загарэліся ўсе лямпы, і я ўбачыў на балконе трох кінааператараў. Яны стаялі наводдаль адзін ад аднога і вялі панарамныя здымкі залы зверху з трох розных пазіцый: з левага, правага боку балкона і па яго цэнтры.

Алег Трусаў падняўся і пайшоў праверыць, ці праўду я сказаў. Ён паглядзеў у дзвярную шчыліну, вярнуўся і сказаў: «Праўда – там кулямётчыкі». Усе галадоўшчыкі ўскочылі і пачалі апранацца. Я адразу патэлефанаваў польскім журналістам. Тут у залу зайшоў Цесавец і прапанаваў усім яе пакінуць. Мы адмовіліся і селі на крэслы прэзідыума. Праз некалькі секунд расхінуліся ўсе дзверы, і ў залу з крыкамі ўварваліся людзі ў чорных трыко і масках. За імі па перыметры залы выстраіліся аўтаматчыкі, потым спецназ. Яны нас проста хапалі, білі і прымусам выцягвалі з залы, а потым развозілі на машынах і выкідвалі ў начным горадзе ў розных месцах.

На наступны дзень апазіцыю ў ВС пускаць было забаронена. Уваход з правага крыла ўвогуле зачынілі. Мы зайшлі ў Дом урада з боку Савета міністраў, але і там нас не прапускалі. Больш за тое: паставілі металадэтэктар, як у аэрапорце, але мы, напружыўшыся, звалілі яго і прарваліся на сесію. Там ужо выступаў Лукашэнка. Памятаю, я ледзь не ганяў па зале М.Цесаўца, бо было за што – ужо не вытрымалі нервы. Супрацоўнікі аховы толькі бегалі і прасілі: «Не ў зале пасяджэнняў, Валянцін Фёдаравіч, толькі не ў зале пасяджэнняў». Памятаю, я выступаў, назваў арганізатара гэтых дзеянняў «фашыстам» (ішла наўпроставая трансляцыя), а ён паабяцаў, што пакажа стужку, як усё адбывалася. Схлусіў і збаяўся. Аляксандр Шут у цэнтры залы прадэманстраваў пабоі, а былы старшыня Вярхоўнага Савета і сённяшні *(на момант напісання ўспамінаў. – **Рэд.**)* сенатар М.Дзямянцей крыкнуў: «Мала далі!»

*Сяргей НАВУМЧЫК:*

## "У фае Авальнай залы былі не толькі аўтаматы..."

"Раніцай 12 красавіка Беларусь прачнулася фактычна іншай краінай. Вярхоўны Савет быў ачэплены ўнутранымі войскамі (не пускалі нават генпракурора Шаладонава!), – *распавядаў пра падзеі той ночы ў эфіры Радыё Свабода тагачасны дэпутат **Сяргей Навумчык**.* – Сітуацыя прынцыпова змянілася – фактычна адбыўся сілавы пераварот. Працягваць галадоўку – парламенцкую, грамадзянскую акцыю супраць сілавых дзеянняў – было бессэнсоўна. Бо ў ноч з 11 на 12 красавіка ў фае Авальнай залы былі не толькі аўтаматы...

Між іншым, часам я чуў: "Вам трэба было галадаць да канца". Калі я прашу ўдакладніць, да якога менавіта, людзі замаўкаюць.

Як нам пазней стала вядома, сярод варыянтаў аперацыі супраць нас у ноч з 11 на 12 красавіка разглядаўся і такі: пусціць усыпляльны газ (таму спецназаўцы і былі ў рэспіратарах), накідаць побач з намі бутэлек з-пад гарэлкі ды рознага смецця, зняць усё гэта на відэа – а на наступны дзень паказаць па БТ.

Мог быць і іншы варыянт, жахлівы..."

АФІЦЫЙНА

## "Неаднаразовыя запыты пракуратуры пакінуты без рэагавання..."

"...У 20 гадзін 09 хвілін 11 красавіка ў дзяжурную часць Упраўлення ўнутраных спраў гарвыканкама паступіў ананімны тэлефонны званок аб тым, што Дом урада замініраваны і магчымы выбух, – *гаворыцца ў пастанове аб прыпыненні папярэдняга следства па крымінальнай справе аб збіцці дэпутатаў, якую склаў следчы **Язэп Бролішс.*** – Абследаваннем першага і другога паверхаў Дома ўрада, у тым ліку і залы пасяджэнняў, зробленым сапёрамі, выбуховых прыстасаванняў не выяўлена, пра што а палове першай гадзіны 12 красавіка складзены акт. Разам з тым, са спасылкай на паведамленне аб мініраванні і магчымасці выбуху, у 2 гадзіны 50 хвілін дэпутаты супраць іх волі гвалтам выведзены з залы і групамі па 2–5 чалавек вывезены ў розныя месцы горада. Пасля вывядзення дэпутатаў зроблены надгляд іх асабістых рэчаў, якія засталіся ў зале пасяджэнняў.

Дэпутаты паказалі, што ў іх выдаленні з Дома ўрада ўдзельнічала значная колькасць служачых міліцыі, войска і неапазнаных фарміраванняў, якія дзейнічалі беспрычынна груба, наносілі ім удары кулакамі, нагамі і гумовымі палкамі.

Паводле заключэння судова-медыцынскай экспертызы, сем дэпутатаў, якія прайшлі агляд, мелі лёгкія цялесныя пашкоджанні, якія не выклікалі разладжвання здароўя, у выглядзе шматлікіх кровападцёкаў, прычыненне якіх магчыма пры абставінах, указаных пацярпелымі. Аналагічныя цялесныя пашкоджанні мелі тры дэпутаты, якія не звярнуліся ў бюро экспертызы.

Устаноўлена, што ў Доме ўрада былі ваеннаслужачыя ўнутраных войскаў першай роты вайсковай часці 3214 у колькасці 37 чалавек, першай роты вайсковай часці 5448 у колькасці 43 чалавек, атрад міліцыі асобага прызначэння МУС у складзе 86 чалавек, 24 службоўцы Галоўнага ўпраўлення аховы МУС. Гэтыя ваеннаслужачыя і супрацоўнікі міліцыі дапытаны, паказалі, што гвалту адносна дэпутатаў не ўжывалі.

Апроч вышэйназваных у Доме ўрада былі і здзяйснялі актыўныя дзеянні ў адносінах да дэпутатаў падраздзяленні, ведамасная прыналежнасць і асабісты склад якіх следствам не выяўлены.

Наяўныя ў справе звесткі пра ўдзел у падзеях, што расследуюцца, ваенізаванага фарміравання органаў дзяржбяспекі па барацьбе з тэрарызмам кіраўніцтва КДБ РБ не пацвердзіла.

Умяшанне войска ў падзеях у Доме ўрада Міністэрства абароны адмаўляе.

Упраўленнем аховы пры прэзідэнце рэспублікі неаднаразовыя запыты пракуратуры пакінуты без рэагавання.

Касеты відэазапісу, выкананага ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, Адміністрацыя прэзідэнта следству не передае. Змест касет мае істотнае значэнне для вызначэння кола ўдзельнікаў падзей, што расследуюцца, вызначэння іх асобы, ступені ўдзелу і магчымай віны і такім чынам выяўлення ісціны па справе.

Сабраныя доказы сведчаць пра тое, што дзесяці народным дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на якіх распаўсюджваецца палажэнне арт.37 аб дэпутацкай недатыкальнасці закона «Аб статусе народнага дэпутата», дзеяннямі прадстаўнікоў улады прычынены цялесныя пашкоджанні. Аднак вызначыць канкрэтныя асобы і абставіны прычынення цялесных пашкоджанняў дасюль не выявілася магчымым.

Таксама не выявілася магчымым вызначыць асобу грамадзяніна, які перадаў ілжывае паведамленне пра мініраванне Дома ўрада і пра магчымасць выбуху".



ПАЙМЕННА

У галадоўцы ўдзельнічалі 19 дэпутатаў:

**Мікалай Аксаміт, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Ігар Гермянчук, Валянцін Голубеў, Уладзімір Заблоцкі, Барыс Гюнтэр, Лявон Дзейка, Лявонцій Зданевіч, Мікалай Крыжаноўскі, Мікола Маркевіч, Віталь Малашка, Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк, Сяргей Папкоў, Пётра Садоўскі, Алег Трусаў, Аляксандр Шут.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Міхаіл ЦЕСАВЕЦ:*

## "Ні пра што не шкадую..."



*Ва ўспамінах усіх дэпутатаў фігуруе прозвішча чалавека, які непасрэдна кіраваў разгонам у тую ноч: гэта былы кіраўнік Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь **Міхаіл Цесавец**. Як склаўся лёс гэтага чалавека? Як ён сёння ацэньвае падзеі 20-гадовай даўніны?*

Палкоўнік міліцыі ў запасе Міхаіл Цесавец цяпер працуе першым намеснікам дырэктара па эканамічнай бяспецы і адміністрацыйных пытаннях АТ "Украінская горна-металургічная кампанія» (галаўны офіс знаходзіцца ў Кіеве). Пра тое, што адбылося 20 гадоў таму пры яго непасрэдным удзеле, добра памятае. Але падрабязна ўзгадваць і аналізаваць падзеі той ночы Міхаіл Міхайлавіч не жадае.

– *Давайце пакінем без каментарыяў. Усё, што напісана, – усё было,* – спакойна адказаў ён "Народнай Волі".

***– Можа, за гэтыя гады вы ўжо не раз пашкадавалі аб тым, што было зроблена? Можа, сёння ў той сітуацыі дзейнічалі б зусім інакш?***

– *Ні пра што не шкадую. Лічу, што мы дзейнічалі тады ў адпаведнасці з абставінамі...*

У разгоне дэпутатаў былі задзейнічаны не толькі прадстаўнікі службы прэзідэнцкай аховы, але і ўнутраныя войскі. Міністрам унутраных спраў у той час быў генерал **Юрый Захаранка**. У прэсе праходзіла інфармацыя аб тым, што Захаранка адмовіўся выконваць загад Лукашэнкі аб выдварэнні дэпутатаў з Авальнай залы. І быццам бы забараніў рабіць гэта ўсім сваім намеснікам.

*«Юра адмовіўся выконваць загад Лукашэнкі аб разгоне дэпутатаў,* – распавядала ў адным са сваіх інтэрв'ю жонка былога міністра, які быў гвалтоўна выкрадзены 16 гадоў таму. – *І забараніў сваім намеснікам умешвацца ў гэтую справу. Але адзін з іх – **Валянцін Агалец** – усё ж такі вырашыў выканаць загад Лукашэнкі. Агалец працаваў пад кантролем Шэймана"*. Нагадаем, што праз некаторы час Агалец змяніў Захаранку ў крэсле міністра ўнутраных спраў Беларусі. І, будучы міністрам, не раз заяўляў, што гатовы выканаць любы загад кіраўніка дзяржавы.

Дарэчы, у сваіх успамінах пра крывавую ноч 1995 года дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання **Алег Трусаў** узгадвае сваю размову з Агальцом: *"Я зайшоў у свой кабінет і па наўпроставай сувязі пазваніў Агальцу і паведаміў пра напад вайскоўцаў. Я казаў яму: «Гэта ж твае ўнутраныя войскі». Той бажыўся, што ніякага дачынення да майго збіцця не мае"*.

Сёння генерал **Валянцін Агалец** не вельмі хоча ўзгадваць падзеі той ночы і далікатна адмаўляецца ад каментарыяў.

*"Я стараўся выконваць свае абавязкі, вось і ўсё"*, – сказаў ён "Народнай Волі".

Крымінальная справа, якую ўзбудзілі па факце збіцця дэпутатаў, была прыпынена. Яшчэ 20 гадоў таму следчыя гаварылі аб тым, што гэта не крымінал, а чыстай вады палітыка. Усе доказы ляжалі ў кішэнях або сейфах у тых, хто меў уладу і быў зацікаўлены ў тым, каб так і было. Толькі следчыя і пацярпелыя былі зацікаўлены ў тым, каб гэтая справа была раскрыта.

Следчы, які вёў гэтае расследаванне, даўно на пенсіі. "Народная Воля" зрабіла тэлефонны званок **Язэпу Бролішсу** і папрасіла яго ўзгадаць падзеі тых дзён.

– *Справа была прыпынена, яна і зараз, напэўна, ляжыць у архіве Генеральнай пракуратуры,* – адказаў Язэп Язэпавіч. – *Я ўжо нічога не магу сказаць з гэтай нагоды – даўно на пенсіі.*

***– Якраз былыя следчыя і могуць шмат чаго распавесці!***

– *Гэта ў тым выпадку, калі б справа была завершана. Калі я выдам тое, што маецца ў матэрыялах справы, то магу апынуцца ў вельмі няпростай сітуацыі, мяне нават могуць прыцягнуць да адказнасці. Гэта будзе парушэннем следчай таямніцы. Я не ведаю, у якім стане цяпер гэта справа. Можа быць, яна наогул спынена. Таму, прабачце, нічым не магу дапамагчы...*

Паколькі на сённяшні дзень кропкі над "і" ў гэтай справе не пастаўлены, то будзем лічыць, што іх паставіць гісторыя. І не ў вельмі аддаленым часе.

ПАЗІЦЫЯ



*Мечыслаў ГРЫБ:*

## "Мы маглі пайсці на кулямёты, але што б гэта дало людзям?.."

*Дагэтуль існуе думка, што старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання **Мечыслаў Грыб** пабаяўся даць годны адпор тым, хто скамандаваў выкінуць дэпутатаў з Авальнай залы. І калі б у красавіку 1995 года Грыб як кіраўнік парламента заняў больш прынцыповую пазіцыю, то, магчыма, не было б іншых страшэнных трагедый у гісторыі Беларусі. Многае залежала ад таго, якую пазіцыю зойме Вярхоўны Савет на наступную раніцу пасля "крывавай ночы".*

– Ведаеце, лупцаваць можна слабейшага, а мацнейшага лупцаваць немагчыма, – *адказаў "Народнай Волі" Мечыслаў Іванавіч.* – І на той момант мы не маглі супрацьстаяць прэзідэнту. Падтрымка яго ў грамадстве на той час была вялікая. І Канстытуцыя нам таксама не дазваляла гэтага рабіць. Аб'яўляць імпічмент падстаў не было, дый парламент быў фактычна расколаты на некалькі лагераў: частка дэпутатаў была запалохана, частка – падкуплена абяцаннямі...

Я імкнуўся займаць дэмакратычную пазіцыю. Але мяне і з аднаго, і з другога боку ставілі ў тупік. І сёння я гэта разумею. Калі я прыйшоў на пасяджэнне Вярхоўнага Савета, то ўбачыў тое, што ўбачыў: трыбуну блакіравала група дэпутатаў з фракцыі БНФ. Яны не дазвалялі весці сесію і выступалі супраць рэферэндуму. Мяне проста паставілі перад фактам: ты прыйшоў на пасяджэнне, а мы бастуем і галадаем. Я таксама быў супраць таго рэферэндуму. І большасць дэпутатаў была супраць. Але ніхто не чакаў ад гэтых людзей такіх рашучых дзеянняў. Тым больш, паўтаруся, нас ніхто не папярэджваў. А потым мяне вінавацяць, што я не прыняў нейкіх мер. А якія меры я мог прыняць да прэзідэнта краіны?..

Тады ад Вярхоўнага Савета яшчэ сапраўды нешта залежала. І калі мы сустрэліся с цэлым шэрагам парушэнняў Канстытуцыі, то дзейнічалі законным шляхам: звярталіся ў Канстытуцыйны суд. І я на сённяшні дзень адзіны старшыня Вярхоўнага Савета, які ўзбудзіў 16 спраў у Канстытуцыйным судзе аб парушэнні прэзідэнтам краіны Канстытуцыі! Пасля мяне такога не было! Дык што я яшчэ павінен быў зрабіць?! Войскі падпарадкоўваліся не мне, МУС і КДБ таксама. Мы мелі сілу зрабіць заяву, выпусціць нейкую паперку, але не больш за тое.

Калі б мяне тады спыталі, то я сказаў бы, што асабіста я супраць галадоўкі. Калі ласка, бастуйце, выступайце на вуліцы, але не зрывайце працу Вярхоўнага Савета. Але, калі разганялі і выносілі гэтых людзей з Авальнай залы, я быў на іх баку. Дарэчы, зала, дзе праходзілі пасяджэнні Вярхоўнага Савета, знаходзілася ў распараджэнні Савета міністраў, мы яе проста арандавалі.

Магу распавесці яшчэ адзін эпізод: днём да мяне падышоў Зянон Пазьняк і паведаміў, што да яго дайшлі чуткі пра тое, што ноччу адбудзецца разгон галадоўшчыкаў. Я выклікаў да сябе кіраўніка Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры прэзідэнце Міхаіла Цесаўца, і той запэўніў мяне, што нічога такога не будзе. На тым і разышліся.

На наступную раніцу я адразу склікаў пасяджэнне прэзідыума, сказаў, што зала, дзе мы засядалі, апаганена збіццём дэпутатаў і мы не можам там далей праводзіць сесіі. І прапанаваў перанесці пасяджэнні ў залу будынка Вярхоўнага Савета, якая, праўда, не была тэхнічна абсталявана належным чынам. Адны мяне падтрымалі, другія – не. На галасаванні мая прапанова не прайшла. І я вымушаны быў падпарадкавацца рашэнню большасці.

Я імкнуўся паводзіць сябе сумленна, вось і ўсё. Сёння я, канешне, настаяў бы, каб пасля збіцця дэпутатаў у тую залу больш – ні нагой. Але што б гэта змяніла?..

Мы маглі пайсці на кулямёты. Але што б гэта дало людзям?..

**Марына КОКТЫШ.**

